


# Бура над Індыяй

Над Індыяй пранёсся палітычны шторм. Індыйская рэакцыя на чале з фашыстуючым палітыканам Дж. Нарайанам зрабіла ў сярэдзіне чэрвеня спробу звергнуць урад Індзіры Гандзі, маючы на ўвазе затым перагледзець прагрэсіўны ўнутраны і міралюбівы знешні курс краіны.

Антыдэмакратычная змова рэакцыі, у тым ліку і ажыццёўленыя ёю тэрарыстычныя акты, была накіравана на тое, каб любымі сродкамі перашкодзіць ажыццяўленню радыкальных эканамічных пераўтварэнняў, пасеяць нацыянальную варожасць паміж індусамі і мусульманамі, справакаваць беспарадкі на рэлігійна-абшчыннай глебе і ў канчатковым выніку стварыць у краіне абстаноўку анархіі і хаосу.

Урад Індыі праявіў цвёрдасць. Па ўсёй краіне было аб'яўлена надзвычайнае становішча. Уведзена цэнзура, якая пазбавіла манапалістычную прэсу магчымасцей ажыццяўляць падрыўную прапаганду супраць урада. Дэкрэтам прэзідэнта было распушчана звыш двух дзесяткаў арганізацый паўфашысцкага і леваэкстрэмісцкага напрамкаў.

Адначасова ўрад Індзіры Гандзі абвясціў і пачаў ажыццяўляць праграму першачарговых сацыяльна-эканамічных мер, накіраваную на вырашэнне найбольш вострых пытанняў у інтарэсах большасці насельніцтва. Не прыходзіцца даказваць важнасць такой, напрыклад, меры, як павышэнне мінімуму заработнай платы, не абкладаемай падаходным падаткам. Жорсткая лінія ў адносінах да тых, хто хаваў прадукты харчавання, прымусіла іх вывезці на рынкі прыхаванае ў тайніках збожжа, масла і іншыя прадукты. Адначасова вядуцца аптовыя закупкі для папаўнення дзяржаўных запасаў прадуктаў харчавання, закліканыя прадухіліць павышэнне цэн.

Асаблівую ўвагу ўрадавая праграма ўдзяляе прагрэсіўным пераўтварэнням у сельскагаспадарчым сектары, у якім занята каля 70 працэнтаў насельніцтва Індыі. Гутарка ідзе перш за ўсё аб канфіскацыі і размеркаванні сярод беззямельных сялян і сельскагаспадарчых рабочых лішкаў зямлі буйных уласнікаў (звыш устаноўленых норм), а таксама аб паскарэнні гэтага працэсу ў тых штатах, дзе размеркаванне пачалося ўжо.

Вялікую ўвагу прагрэсіўная грамадскасць Індыі ўдзяляе ўрадавым мерам па ліквідацыі такой формы прымусовай працы, як адпрацоўка за даўгі. У шэрагу штатаў на прымусовую працу асуджаны многія пакаленні сельскіх працаўнікоў, чые продкі завінаваціліся землеўладальнікам. Прэм'ер-міністр Індзіра Гандзі публічна назвала гэту сістэму варварскай і аб'явіла незаконнымі кантракты і пагадненні, звязаныя з любымі формамі прымусовай працы. Губернатар буйнейшага штата краіны Утар-Прадэш з насельніцтвам каля ста мільёнаў чалавек ужо выдаў указ аб адмене адпрацовак па пазыкавых абавязацельствах. Указ прадугледжвае пакаранне да трох гадоў турэмнага зняволення і вялікі штраф для тых памешчыкаў і кулакоў, якія будуць прымушаць сялян, ці членаў іх сем'яў да адпрацовак па старых даўгах і абавязацельствах, ануляваных цэнтральным урадам.

Скасаванню сістэмы прымусовай працы будзе садзейнічаць і прадастаўленне ўрадавых крэдытаў сялянам. Урад плануе адкрыць да кастрычніка больш як 50 рэгіянальных крэдытных банкаў, кожны з якіх будзе абслугоўваць каля 10 мільёнаў сялян.

Вялікае значэнне маюць іншыя меры, прадугледжаныя праграмай: прадастаўленне беззямельным участкаў зямлі для будаўніцтва дамоў, прадастаўленне дапамогі сельскім ткачам і саматужнікам, аказанне дапамогі студэнтам і навучэнцам з бедных сем'яў, паляпшэнне размеркавання асноўных прадуктаў па цвёрдых цэнах і іншыя мерапрыемствы.

**І. П.**



КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# Школа спеласці і майстэрства

Два гады напружанай працы і пошукаў аддзяляюць юнакоў і дзяўчат, што пажадалі вучыцца ў Мінскім гарадскім прафесіянальна-тэхнічным вучылішчы № 12 ад дыпламаваных спецыялістаў. Два гады для тых, хто закончыў агульнаадукацыйную сярэднюю школу і жадае стаць парыкмахерам, фатографам ці апаратчыкам хімчысткі — аператарам пральні. З васьмігадовай адукацыяй можна выбраць прафесію слёсара-электрыка па рамонту бытавых машын і прыбораў, абуўшчыка. Вучыцца прыдзецца тры гады, каб паралельна з рабочай спецыяльнасцю атрымаць і сярэднюю адукацыю.

Вучылішча рыхтуе кваліфікаваных рабочых для службы быту Беларусі. Яго папулярнасць у рэспубліцы тлумачыцца і асаблівай увагай да гэтай галіны народнай гаспадаркі, і тымі дасканалымі ўмовамі, якія створаны тут для вучобы і адпачынку. У распараджэнні вучняў — кабінеты для тэарэтычных заняткаў, майстэрні і лабараторыі, спартыўная і актавая залы з шырокаэкраннай кінаўстаноўкай, бібліятэка з чытальнай залай. Побач з вучэбным корпусам пабудаваны дзевяціпавярховы інтэрнат, яго пакоі разлічаны на 2-3 асобы. У холах — тэлевізары, на кожным паверху ёсць спецыяльныя пакоі для заняткаў.

Каля 2 мільёнаў рублёў было адпушчана дзяржавай на стварэнне вучэбнага комплексу для будучых рабочых-бытавікоў. Амаль 900 юнакоў і дзяўчат вывучаюць тут выбраныя спецыяльнасці, рыхтуюцца стаць дастойнай зменай старэйшага пакалення.

Цяпер у гарадах і сёлах рэспублікі працуе 171 прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча. Яны рыхтуюць высакакваліфікаваных рабочых для ўсіх галін народнай гаспадаркі Беларусі. Не толькі глыбокія і трывалыя прафесіянальныя веды патрэбны юнакам і дзяўчатам, уступаючым у жыццё. Маладыя рабочыя павінны быць усебакова развітымі людзьмі з глыбокім пачуццём прафесіянальнай гордасці і разуменнем спецыяльнай ролі працы, свайго месца ў грамадстве. Гэтаму садзейнічае творчы характар навучання, выкарыстанне вольнага ад заняткаў часу для наведвання тэатраў і кіно, чытанне мастацкай літаратуры, сустрэчы з заслужанымі людзьмі, кантакты з калектывамі прадпрыемстваў, членамі якіх стануць маладыя рабочыя.

Выпускнікам прафесіянальна-тэхнічных вучылішч гарантавана месца працы па спецыяльнасці. Яны могуць і далей паспяхова ўдасканальваць сваё майстэрства, павышаць кваліфікацыю. Жадаючыя паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову ці тэхнікум не сустрэнуць перашкод. Калі ж вышэйшую адукацыю хлапец ці дзяўчына намераны атрымаць па блізкай спецыяльнасці, то іх прымуць у інстытут па-за конкурсам.

Прафесіянальна-тэхнічныя вучылішчы часта называюць рабочымі універсітэтамі. І гэта адлюстроўвае сутнасць падрыхтоўкі тых, хто потым стаіць ля станкоў, шые кашулі і сукенкі, рамантуе тэлевізары, пячэ хлеб. Тэндэнцыя развіцця нашага грамадства такая, што праз гэтыя „універсітэты", даючыя кваліфікацыю і сярэднюю адукацыю, пройдзе кожны малады рабочы.

**В. Сергіеўская**

(Працяг са стар. 1)




— Усе пачатковыя школы, — заявіў ён, — у Гайнаўскай гміне 21 жніўня распачалі працу. Ёсць іх у нас 8. Своечасова былі яны адрамантаваны і аднаўлены. Толькі ў Навасадах праводзіцца яшчэ грунтоўны рамонт. Але дзеці з Навасад ужо пастаянна будуць ездзіць у школу ў Дубінах. У будынках навасадаўскай школы ад 1 верасня распачне дзейнасць новая сельскагаспадарчая школа.

Пакідаў я Гайнаўскую гміну з перакананнем, што працаўнікі яе і іншых гмін паспелі ўжо асвоіцца з думкай, што над імі няма павятовых начальнікаў.

— Раней было так, — гаварыў мне Фёдар Бартнічук, які ў Гайнаўскай гміне займаецца будаўнічымі справамі, што гміна прымала нейкую пастанову, а ў павеце зараз жа яе адмянялі. Цяпер такое ўжо рэдка здараецца.

— Аднак і ваяводскія ўлады, — скардзіўся Ян Харытанюк, — вельмі фармальна да нас адносяцца. Прышлюць паперку і на тым канец. Для прыкладу, атрымалі мы загад, што сяляне ў нашай гміне маюць купіць столькі-та тон штучнага ўгнаення. А як гэта ажыццявіць, — у ваяводстве не турбуюцца. А гэта ж справа не такая простая. Падобных клопатаў ёсць яшчэ больш.

Сапраўды, адказным работнікам адміністрацыі часта прыходзіцца „ламаць" сабе галаву, каб паспяхова справіцца са шматлікімі праблемамі, якія стварае жыццё. Таму і адмянілі павятовую адміністрацыю, каб у гмінах урэшце самастойна пачалі думаць.

**М. Нурэцкі**




**Sobota 13.IX.** 6.30 Tech. Rol. Chem. 7.00 Bot. 9.25 YAO — film ser. fr. odc. II. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Zoolog. Świat istot jednokomórkowych. 11.05 (kl. VIII) Geogr. Afryk. Kraje Arabskie. 13.45 Tech. Rol. Hod. zwierz. 14.30 Mech. rol. 15.20 Pr. I prop. 15.35 Red. Szk. zap. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Dzien. 16.10 Obiektyw. 16.30 Za kierownicą. 16.50 Sport dla Ciebie. 17.05 Sobota Młodych. 17.55 Pr. film. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Filmy z H. Bogartem: Key Largo — film fab. ameryk. 21.55 Sport. 22.20 Wieczór z K. Gottem. 23.50 Dzien. 0.10 Opowieści Starszego Pana.

**Niedziela 14.IX.** 6.25 Tech. Rol. Hod. zwierz. 6.55 Mech. rol. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.45 Zemsta Wilka Morskiego — film fab. rum. cz. II. 12.00 Lekt. Pegaza. 12.20 Dzien. 12.40 Spotkanie z gwiazdami jazzu. 13.20 Tydzień. 13.50 Turyści z północy. 14.15 Dla dzieci. 15.05 Z kamerą wśród zwierz. 15.35 Pr. rozr. 16.35 Los. Toto-Lot. 16.50 Tele-Echo. 17.50 Refl. ob. 18.05 Sport. 18.55 Jeszcze ja, to ja — film dok. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Dobranoc dla dor. 20.30 Nowe przygody Vidocqa — film ser. fr. 21.25 Róże Montreux — film rozr. 22.15 Sport. 22.45 Winda.

**Poniedziałek 15.IX.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Zoolog. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.40 Echo stad. 18.00 Dzień po dniu — film ser. radz. odc. II. 18.55 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: St. Wyspiański — Kroniki Królewskie. 21.25 Krople i rzeki. 21.55 Dzien. 22.15 Sport. 22.35 Szajba — rec. W. Młynarskiego.

**Wtorek 16.IX.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Zoolog. 9.00 Dla szkół: (kl. V) J. pol. M. Konopnicka. 10.00 Nowe przygody Vidocqa. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) J. pol. A. Strindberg — Taniec śmierci. 12.00 (kl. VIII) Hist. O wolną i niepodległą. 13.45 Tech. Rol. Hist. 14.30 Mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Studio Mł. Kodeks Ucznia. 17.05 Nie tylko dla pań. 17.30 Znaki czasu. 18.00 Fakty, Op., Hip. 18.50 Studio Mł. Kodeks Ucznia. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Studio Mł. Kodeks Ucznia. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Bracia Lautensack — film ser. NRD odc. I. 21.30 Studio Mł. Kodeks Ucznia. 21.35 Świat i Polska. 22.20 Marek Grechuta — rec. pios. 22.40 Dzien. 23.00 Sport.

**Środa 17.IX.** 6.30 Tech. Rol. Hist. 7.00 Mat. 8.00 Bracia Lautensack — film ser. NRD odc. I. 9.00 Dla szkół: (kl. VI) Fiz. Miary. 11.05 (kl. VII) Hist. St. Staszic. 12.45 Tech. Rol. Chem. 13.[illegible] Upr. rośl. 16.20 Pr. dnia. 16.25 Dzien. 16.35 Obiektyw. 16.55 Kino Skrzat. 18.25 Puchar Europy w p. noż. Ruch (Chorzów) — Coupio Finl. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Ocalenie — film fab. pol. 21.50 Czym żyje świat. 22.20 Dzien. 22.40 Sport.

**Czwartek 18.IX.** 6.30 Tech. Rol. Chem. 7.00 Upr. rośl. 8.00 Kurs Inf. 9.00 Ocalenie — film fab. pol. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) J. pol. J. Kochanowski. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Mat w szkole. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z bratkiem. 18.10 Beskidzie, Beskidzie, kto po tobie idzie — rep. 18.35 Pr. film. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Asfaltowa dżungla — film fab. USA. 22.10 Pegaz. 22.45 Dzien. 23.05 Sport. 23.25 Tańce Brahmsa i Griega.

**Piątek 19.IX.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 9.00 Szalona noc tchórza — film fab. wł. 11.05 Dla szkół: (kl I—III lic.) Wych. tech. Now. zakład prod. 12.00 (kl. VII) Geogr. Linia brzeg. Europy. 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Bot. 15.55 NURT. Zasady polit. oświat. PRL. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 17.35 Szperacze. 18.00 Inf. Wyd. 18.15 Lwy — film ser. fr. Mała Encykl. Zwierz. 18.50 Eureka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Śpiewa Joan Baes. 20.40 Panorama. 21.20 Pr. film. 22.20 Dzien. 22.35 Inf., Tow., Prop. 22.40 Sport.




**Piątek 12.IX.** — 8.00 Filmy dok. 17.55 Film fab. 20.15 Sport. 21.00 Koncert.

**Sobota 13.IX.** — 15.30 Film fab. 16.15 P. nożna. CSKA — Spartak. 18.20 Filmy fab. 19.30 Koncert. J. Guliajewa. 20.35 Sport. 21.25 Sala tańców.

**Niedziela 14.IX** — 9.00 Spektakl. 12.15 Koncert. 14.15 Panorama międzynar. 14.45 Film dok. 16.15 Klub film. 17.15 Koncert. 20.30 Sport.




**Białowieża** Nona — buł. 16—17. Opowieść w czerwieni — pol. 18—19. Jeremioch Johenson — USA 20—21.

**Czeremcha** Grzech Katarzyny — czes. 16—17. Zapamiętaj imię swoje — pol. 20—21.

**Dubicze Cerkiewne** Potop — pol. 17—21.

**Gródek** Nona — buł. 20—21.

**Kleszczele** Spojrzenie na wrzesień — pol. 16—17. Noc na Karlsztejnie — czes. 18—19. Hubal — pol. 20—21.

**Michałowo** Pułapka na generała — jug. 16—17. Z zimną krwią — USA 20—21.

**Narew** Człowiek, który przestał palić — szwedz. Zaczarowane podwórko — pol. 17—21.

**Narewka** Dowódca armii — radz. Gwiazdy są oczami wojownika — jug. 18—21.

**Nurzec** Na rabunek — czes. 16—17. Michaś przywołuje świat do porządku — czes. 18—19. Kartka z młodzieńczych lat — pol. 20—21.

**Orla** Bezdomny — buł. Hrabina Cosel — pol. 17—21.

B.Z.Graf. Zam. 2227. P-1.

 

# ПОМНІК НЕСМЯРОТНЫМ ГЕРОЯМ

Беластоцкага пісьменніка **Аляксандра Амільяновіча** няма патрэбы асабліва шырока прадстаўляць нашаму чытачу. Ён вядомы і папулярны на Беласточчыне, пачынаючы ўжо з першых крокаў сваёй творчасці, якія ставіў якраз у „Ніве“ яшчэ ў першыя гады яе існавання. „Дэсант „Дальні“ і іншыя яго аповесці, што ішлі ў адрэзках у нашым тыднёвіку, ужо тады карысталіся вялікім поспехам. Ад таго часу штогод з-пад пяра А. Амільяновіча выходзілі штораз то новыя займальныя аповесці і навелы, заваёўваючы ўсё шырэйшае кола чытачоў у нашай краіне і сягаючы далёка па-за яе граніцы. У нумары „Нівы“ ад 7 ліпеня 1974 г. аб гэтым у інтэрв'ю — „У аўтара „Духа Белавежы“ пісала В. Леўчук. Неабходна толькі сказаць, што на працягу мінулага года навелы і ўрыўкі з аповесцей А. Амільяновіча, побач з польскімі газетамі і часопісамі, друкавалі „Советский воин“, „Советский пограничник“, „Советская женщина“, „Литературная Россия“ і іншыя выдавецтвы Савецкага Саюза, а таксама „Нойес Дойчлянд“ і „Нойес Лебэн“ у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы. Савецкае выдавецтва прыступіла да выдання аповесці „Прысуд“, у Чэхаславакіі нядаўна выйшаў „Дух Белавежы“, а ў ГДР — „Яловая голька“. Такім чынам, дзякуючы кнігам А. Амільяновіча наша Беласточчына з яе бурлівымі падзеямі ў часе апошняй вайны стала папулярнай не толькі ў Польшчы, але і ў іншых сацыялістычных краінах.

Гэтую папулярнасць напэўна павялічыць і новы том твораў А. Амільяновіча **„Па слядах ценяў“*)**, які нядаўна паявіўся на паліцах кнігарань.

У яго ўвайшло дзевяць навелаў і аповесць. У асноўным ахопліваюць яны падзеі 1939-1947 гадоў, але як гэта бывае з гістарычнымі фактамі, іх нельга замкнуць востра абмежаванымі граніцамі часу, водгулле таго грознага перыяду яшчэ жывое і ў нашыя дні.

Як і ў дагэтуляшніх творах, і ў гэтай, **васемнаццатай** ужо па ліку сваёй кнізе, А. Амільяновіч засяроджвае ўвагу на бітвах, якія ў розных кутках паўночна-ўсходняй Польшчы разыгрываліся паміж разведкамі савецкай і нямецкай, польскай і нямецкай, а таксама на барацьбе з рэакцыйным падполлем у першыя гады народнай улады на гэтых землях.

*„Аповесці, што складаюць гэтую кнігу,* — заўважае ва ўступным слове аўтар, — *напісаў я на падставе фактычных здарэнняў, якія разыгрываліся на Беласточчыне ў гады апошняй вайны і пасля яе заканчэння“*, а за матэрыяламі ён звярнуўся не адно да ўспамінаў удзельнікаў або сведкаў гэтых падзей, але *„даследаваў я таксама польскія і савецкія архівы, дакументы пра патаемныя дзеянні разведак, шпіёнаў і дыверсантаў“*.

Цэнтральнае месца ў томе займае аповесць **„Справа пад крыптонімам „Ягер“** пра подзвігі савецкага разведчыка Івана Вырву, які дзейнічаў пад псеўдонімам „Сібірак“. Ён — савецкі афіцэр, што застаўся ў тылу ворага — заснаваў у вёсцы Хомантаўцы партызанскі атрад з былых мясцовых членаў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, ахвярных і адданых справе барацьбы з гітлераўскім захопнікам людзей. Атрад выканаў шэраг удалых дыверсій па знішчажэнню фашыстаў. Сам жа Сібірак падаўся ў Беласток і, стварыўшы невялікую аперацыйную групу, разгарнуў у горадзе і яго ваколіцах падрыўную дзейнасць, а таксама збіранне і перадачу па радыё ў камандаванне Савецкай Арміі каштоўных звестак аб ворагу. Вага аповесці паглыбляецца і тым, што ў ёй аўтар рэканструяваў вобраз Беластока і яго наваколля ў крывавыя гады гітлераўскай акупацыі, паказаў жорсткую і непрымірымую барацьбу савецкіх людзей і радавітых беластачан з захопнікам, а ўсё гэта падаў з талентам і глыбокім веданнем фактаў.

У роўнай ступені аповесці пра легендарнага Сібірака, як і іншым творам з гэтага тома ўласціва маланкавае разгортванне падзей і напружанне, што не пакідае чытача ад першай і да апошняй старонкі. А праз усе гэтыя творы снуецца чырвонай ніццю ўлюбёнасць аўтара ў сваю родную Беласточчыну і людзей, што ў справу яе вызвалення і ўстанаўлення народнай улады, ставілі на карту самае каштоўнае для іх — уласнае жыццё.

Добра сталася, што „Па слядах ценяў“ выйшла якраз у бягучым годзе, тады, калі ў цэнтры Беластока з-за будаўнічых рыштаванняў пачынае ўздымацца мануметальны помнік у гонар усіх тых, хто аддаў сваё жыццё за вызваленне нашай роднай Беласточчыны. Кніга Аляксандра Амільяновіча — гэта створаны з талентам і глыбокім пачуццём літаратурны помнік тым жа несмяротным героям.

**Мікалай Гайдук**

*) Aleksander Omilianowicz, Tropiąc cienie, MON, Warszawa 1975, стар. 364, цана 25 зл.

## Сямейная традыцыя

Камяк мяккай, падатлівай гліны, кінуты на сярэдзіну ганчарскага круга, нібы ажывае, сагрэты чуйнымі рукамі майстра, набывае то форму збана, то вазы, то верцяхі. Яшчэ на станку вільготная гліна пакрываецца мудрагелістымі ўзорамі. За такім заняткам застаем вядомага ганчара Вітальда Чарнецкага з гміннага пасёлка Міхалова. Вырабляе ён з гэтай яшчэ вільготнай гліны збаны і графінчыкі, гаршчочкі для кветак. Асабліва падабаецца нам іх форма і рознаколерная глазура.

Вітальд Чарнецкі навучыўся ляпіць гаршкі ад свайго бацькі, а той яшчэ ад дзеда. Словам, ганчарства — гэта сямейная традыцыя Чарнецкіх. Апошні з Чарнецкіх Вітальд самастойна дайшоў да таго, як рабіць добрую высакаякасную паліву розных колераў: зялёнага, бронзавага, чырвонага, ды мешаную з гэтых трох асноўных. Цяпер В. Чарнецкі адзіны ганчар на ўсю ваколіцу. Ганчарствам займаецца амаль 20 гадоў. Умее ён зрабіць з гліны амаль усё, а ўжо найлепш хатні посуд. Прыгадзіўся самастойна здабыты вопыт у гэтай справе. Справядліва гаворыць прыказка: не багі гаршкі лепяць.

Працаваць В. Чарнецкаму даводзіцца цяжка. Найцяжэй пры нарыхтоўцы самой гліны. Гавораць жа: „Цяжкі, як тая гліна“. Пасля доўга трэба ўвіхацца ля высокатэмпературнай печы, у якой гліна ператвараецца ў кераміку, над якой амаль не ўладны час.

Гліняны посуд Вітальда Чарнецкага з Міхалова купляюць на базарах у Міхалове, Крынках, Гайнаўцы, Беластоку, а таксама ў магазінах Цэпэліі.

Кераміка Вітальда Чарнецкага здобіць таксама выстаўкі шматлікіх народных умельцаў. Усюды захапляе наведвальнікаў.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове.

**Бардовіч А. М., Шакун Л. М.,** Марфемны слоўнік беларускай мовы, 1975, стар. 784, цана 13 зл. 80 гр.

Гэты том змяшчае каля 60 тысяч слоў з адначасовым падзелам іх на марфемы (прыстаўкі, корані, суфіксы, канчаткі, выдзелены таксама злучаныя галосныя). Такім чынам ён дае поўны вобраз пабудовы слоў. Слоўнік прадназначаны для вышэйшых і сярэдніх школ. Павінен яго мець таксама і кожны настаўнік беларускай мовы пачатковых школ.

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

**Юргелевіч П. Я.,** Курс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі, 1974, стар. 304, цана 8 зл. 40 гр.

Падручнік адрасаваны для студэнтаў вышэйшых школ і настаўнікаў беларускай мовы сярэдніх школ. У ім разглядаюцца праблемы фанетыкі, арфаэпіі, графікі, арфаграфіі, лексікі, фразеалогіі і марфалогіі сучаснай беларускай мовы. У многіх выпадках для вытлумачэння розных з'яў сучаснай мовы аўтар звяртаецца да гістарычных помнікаў беларускай мовы, а таксама да параўнанняў з фактамі рускай і ўкраінскай моў.

Арфаграфічны слоўнік, 1972, стар. 232, цана 1 зл. 80 гр.

У слоўніку змешчана каля 7 тысяч слоў.

Родная літаратура. Хрэстаматыя для X класа сярэдняй школы, стар. 400, цана 3 зл. 50 гр.

У яе ўвайшлі праграмныя творы А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі, І. Мележа, І. Шамякіна і Я. Брыля.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу: „Dom Książki”, 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)

## Беларусіяна

### БЕЛАРУСКІЯ ПАЭТЫ Ў „КАМЭНЕ“

У люблінскім часопісе **„Камэна“** ад 24 жніўня 1975 г. змешчаны вершы беларускіх паэтаў Сцяпана Гаўрусёва, Якуба Коласа, Канстанцыі Буйла, Міхася Чарота і Рыгора Барадуліна. На польскую мову пераклаў іх Ян Гушча, польскі паэт з Лодзі.

Верш Гаўрусёва **„Напрацавалася лета...“** змешчаны на першай старонцы **„Камэны“**, якім адкрываецца нумар часопіса.

**„Камэна“** паведамляе, што ў адным з восеньскіх нумароў змесціць падборку мініяцюр Янкі Брыля, якія пераклаў на польскую мову Сакрат Яновіч.

**(С.Я.)**

## Гарадскія зарысоўкі



*Новая Гайнаўка.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## З маёй званіцы

### ПАЧАКАЙ ЯШЧЭ — ДАЧАКАЕШСЯ

*Наташы Туронкавай прысвячаю*

Ты прысела на ганачку ціхенька, ціхенька — маўчыш. Вочкі ж тым часам вавёрачкамі, шмыг-шмыг туды сюды скачуць, палымяным пералівам бліскаюць, кожную новую падзею адразу схапіць гатовыя.

Ды і вушкі крыламі растапырыліся — кожны подых новага, кожнае тхненне свету шырокага так, як матылькоў каляровых, ловяць.

Ты ж ужо ой якая дарослая — не зразумець гэтага татку з мамкаю.

Ты ж ужо ой колькі ведаеш — выявіць няма каму, падзяліцца з кім.

Вось калі б на кані, на буйным, на чатырохколым, тармазамі скрыгітнуўшы, каралевіч пад'ехаў. Страсянуў бы баласоў доўгіх грываю, звязкай ключыкаў па далоні бразнуў бы. Светлы ўвесь у бліску сонечным, джынсы тут ды там папрацiраныя. Наскрозь дзірак няма, аднак ззяе ўсё. Сесці побач з ім так і хочацца.

А ў вушах гудзе, ды па сэрцы б'е, наўкруга ўскалыхае ўсім, той адзіны рытм — песня дзікая. І няўзгоды дня, сум штодзённых хвіль, уся нудота быцця — растварыліся. І не той ён ужо свет, шэры колер занік, расцвіло ўсё наўкола вясёлкаю.

Да цябе ён ступіў, узяў пад локаць, вядзе, а па сэрцы б'е рытм, вецер ногі абвіў, дзяцел дзесь на сасне лупіць дзюбай у бубен, думкі ведзьмамі асядлалі цымбалы.

І не гром-та грыміць, а ўсё той самы рытм ашалела ў скронях стукоча. І хоць у пятках душа, кроў кіпеннем пайшла, варам шчокі зліла дзявочыя.

І ў руцэ ўжо рука, адным крокам ідзе след, у адно вока зліліся чатыры — перад імі адно, перад імі сваё — гэта тыя пабачаць, хто верыць.

З шыны на шыну ўжо топчацца конь, старым серабром абручы памутнелі. І толькі дзве фары брыльянтаў агнём уцяліся ў жыццё — шляхам прывідным.

Месца пры месцы, пры мне ты, я з табою, жахі ды ахі нам ужо неўспалох.

І конь заіржаў, на ўсіх, на чатырох цыліндрах, на рыцарскім шчыце заірдзелі аганькі.

Трымай мяне, трымай мяне, мой любы. Палёт арліны запірае дух. Нават тады, аднак, калі б у свеце мы былі адзінымі — паімкнемся, па вясёлцы, па дузе, пупе бярэменнай краіны — пагоню.

*Ларс*



 

# Чароўная хата ў Храбалах

Не выдзяляецца яна нічым асаблівым сярод іншых. Стаіць так, як і ўсе, на падмурку, спаглядаючы вокнамі на вуліцу. І што ў гэтым цікавага, здавалася б? Стаіць сабе хата сярод невялікага, такога як і сама, саду, дык няхай стаіць. Ці ж мала ў вёсках такіх хат?

Чалавек, які не з'яўляецца жыхаром Храбалоў ці ваколіцы, прайшоў бы вуліцай, не падумаўшы нават, што можа быць тут нешта цікавае. А яно ёсць. Калі падыходзіш бліжэй, то адразу кідаецца ў вочы афіша: „Пункт сучаснай гаспадаркі ў Храбалах". Памяшканне невялікае. Складаецца яно з двух пакойчыкаў. Пад сценамі стаяць шафы з шклянымі шыбамі, з-за якіх усміхаецца чысценькая пасудзіна ды сучасныя кухонныя прылады. Неспатыканы парадак стварае ў памяшканні цёплы, святочны настрой.

Прыведзены вышэй пункт, як першы ў бельскім ГС-е, паўстаў, дзякуючы самаахвярнай працы Тэрэсы Жэпнеўскай, у лютым 1974 г. Думка, каб заснаваць нешта такое, узнікла яшчэ тады, калі вучылася яна ў сельскагаспадарчым тэхнікуме і была адначасова старшынёй гуртка вясковых гаспадынь у Мешуках. Цяпер Тэрэса Жэпнеўская жыве ў Жэпневе, адкуль штодзённа даязджае веласіпедам да працы, якую моцна любіць і да якой сур'ёзна адносіцца.

— Найважнейшае тое, што ў Храбалах дружныя жанчыны, — гаворыць яна. — З імі можна ўсё зрабіць, а робім тут многа.



Арганізуюцца курсы шыцця, пячэння, варэння, якія вядуць запрошаныя спецыяльна людзі. Не толькі ў Храбалах. Сваю дзейнасць пераносяць і на акалічныя вёскі. Няхай і іншыя навучацца новаму. Няхай і ў Плёсках, і ў Кнаразах, і ў Дзяніскаx і ў Райску ўбачаць жанчыны, што і як можна зрабіць, паслугоўваючыся новымі прыладамі.

Апрача таго, можна тут пазычаць, за невялікую аплату, кнігі і розныя рэчы, патрэбныя на кухні і на гаспадарцы. Калі ў каго вяселле ці іншая нагода, хопіць толькі зайсці і пазычыць талеркі, шклянкі, чаркі і ўсё іншае. Ёсць тут таксама бетонамяшалкі, палаткі і гумовыя матрацы. Адным словам, ёсць усё, чаго толькі захочаш. Прымаюць нават брудны гардэроб, які забірае і прывозіць чыстым беластоцкая „Фэміна".

Дзейнасць гуртка сучаснай гаспадыні ў Храбалах даволі шырокая. Зоркае вока Тэрэсы Жэпнеўскай не прапусціць ніякага свята, ніякай гадавіны. Як у люстэрку знойдуць яны адразу адбіццё на сценгазеце. Ці перад Першым маем, ці ў Міжнародны дзень жанчын — заўсёды адбываюцца ўрачыстыя вечарынкі. Нават і ў звычайны дзень ці вечар прыходзяць сюды жанчыны, ды не толькі жанчыны, каб пагаварыць, параіцца, паслухаць цікавыя расказы. Знайшлі свой прытулак тут і дзеці. Прыцягвае іх цёплая, можна сказаць, мацярынская атмасфера. З ахвотаю заходзяць яны паслухаць казку ці ўрывачак цікавай кнігі. Здаецца, такая невялічкая хатка, а колькі тут можна знайсці цеплыні, парад, радасці.

**Міхась Шаховіч**
Фота **Я. Цялушэцкага**

Пачатак на стар. 1

# АЛЬХОВАЯ КЛАДКА

Кладкі ўтрымлівалі сувязь з **савецкімі партызанамі**, былі сувязнымі, дастаўлялі зброю і харчы. Іменна тут, у ваколіцы палустанка Гнілец, тры разы партызаны пускалі пад адхон паязды з нямецкімі салдатамі і зброяй, што фашысты кіравалі на ўсходні фронт.

Альхаўчане вярнуліся на свае сялібы, адбудаваліся памаленьку, і кожны год стаў прыносіць ім карысныя перамены ў жыцці. Дзеці пайшлі ў школы, а, закончыўшы іх, падаліся ў Гайнаўку, Беласток і іншыя гарады, а некаторыя, як браты **Васіль, Уладзімір і Іван Мацкевічы** паехалі на Шлёнск і сталі адмысловымі **гарнякамі**. Цяпер хаты Онтосёў і Ольховікоў электрыфікаваны, колішняя цераспалосіца ліквідавана, а багну **Ордоніе** меліяравалі і ператварылі ў дасканалыя лугі і пашу. На палеткі **Багно, Заднікі, Морозово, Рушкоў Луг, Скуоснічку, Стыпулёво, Шылаўшчыну** пачалі наступаць касілкі і жняяркі, толькі ва ўспаміне засталіся косы ды сярпы. Штораз больш палявых работ выконваюць трактары і іншыя машыны з СКР-у ў Навасадах. Належная апрацоўка зямлі і нескупыя порцыі мінеральных угнаенняў прыносяць добрыя ўраджаі, развіваецца гадоўля быдла і свіней.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*Вёсачка Альховая Кладка ляжыць абапал колішняга гасцінца з Бельска ў Свіслач.*



*У жнівеньскі поўдзень на панадворку Уладзіміра Плевы.*

## ПІСЬМО ПАКЛІКАЛА Ў ДАРОГУ

Пісалі мы аб лёсе бабулі Параскевы Агейчык з Гарадка ў № 33 „Нівы" за гэты год, і абяцалі, што яшчэ вернемся да яе кватэрных умоў.

Раней, пакуль занялася гэтай справай рэдакцыя тыднёвіка „Ніва", кватэрныя справы П. Агейчык разглядалі ваяводскія і гмінныя партыйныя і адміністрацыйныя ўлады, рэдакцыя Польскага радыё і тэлевізійных перадач. Напісана многа пісем, прашэнняў, загадаў, распараджэнняў.

Вернемся аднак да самой справы. Цяперашняе памяшканне П. Агейчык не надаецца для далейшага карыстання, яго немагчыма рамантаваць, паколькі знішчыў грыб. Неабходна знайсці другую кватэру, пакуль не пачаліся прымаразкі. Печак таксама лепш не чапаць. Ніхто з печнікоў не згадзіўся іх рамантаваць. Баяўся, што столь можа абарвацца. Адно тады пэўнае, зімы ў такой кватэры бабулі не пераждыць. Ужо цяпер, у халодныя ночы, заглядае сюды, праз дзіравыя вокны, падмазаныя глінай дзеля таго, каб не павыпадалі, холад. Удзень і то не заглядае сюды сонца. Палавіна хаты, якую займае 93-гадовая бабуля — з паўночнага боку. Блох ніякім даступным спосабам не выгурыць адсюль. Астаецца чакаць. Пакуль на бабулю Параскеву Агейчык не зваліцца і не прытняце гнілая столь або печка не прыдушыць...

## Дзе жыць бабулі ПАРАСКЕВЕ ?

Нічыя гэта тайна, што дом пры вул. Балотнай 6 з'яўляецца ўласнасцю Параскевы Агейчык і яе сына Яна. Толькі ў другой палавіне дома ўжо 25 гадоў жывуць пажылыя кватаранты — Аркадзь Герасімчук з жонкай. П. і Я. Агейчыкі не могуць іх ніякім чынам выселіць, хаця зрабілі ўсе намаганні ў гэтым напрамку. Падавалі нават у суд, але сведкі сведчылі не на карысць Агейчыка, і таму сям'я Герасімчукоў не ўступае. Невядома чаму Аркадзь Герасімчук плаціць за кватэру ўсяго 90 зл. у месяц. Грошы высылае па пошце. Ян Агейчык патрабаваў 250 зл. за памяшканне і за пляц, на якім ёсць куратнік і хлеўчык. Аднак з гэтага нічога не выйшла. У гэтай справе прамаўчалі і гмінныя ўлады, а таксама змаўчаў кватарант, які да гэтай пары не даў ніякага адказу на пісьмовае прашэнне ўласніка кватэры.

І так сям'я Герасімчукоў жыве сабе спакойна. Куды ім ісці? Да дачкі або зяця? Там іх не хочуць. Мо толькі калі спатрэбілася б дзіця папільнаваць?

Цікава, дакуль гмінныя ўлады ў Гарадку будуць вырашаць кватэрныя справы П. Агейчык. Дакуль будуць бездапаможна раскладаць рукі? Не могуць яны рамантаваць прыватнага будынку. Не могуць знайсці іншай кватэры, бо ў Гарадку і так цесна. Прычым адной бабулі ўжо давалі кватэру ў пустуючым школьным будынку ў Страшаве, дзе некалі жыла настаўніца з сям'ёю. А бабулі Параскеве таксама трэба хаця б абы-дзе, абы лепшыя ўмовы.

**Я. Цялушэцкі**

P.S. Калі мы апошнім часам наведалі зноў бабулю Параскеву Агейчык, яна асабліва цешылася, што да яе прыходзіць нявестка. Цяпер яна не толькі прыходзіць (таму што яе муж Ян Агейчык прабывае на лячэнні ў бальніцы ў Беластоку), але нават суп зварыла і курынага мяса прынесла. Пасля выступлення газеты, яна ўжо каторы раз наведала рэдакцыю, „падзякавала" за тое, што яе пакрытыкавалі і хацела, каб мы зрабілі папраўку. Справа ў тым, што яна атрымлівае не паўтары тысячы злотых пенсіі, а ўсяго 920 зл. Прадставіла на гэта пасведчанне. Цікава, чаму ў гміне нас праінфармавалі інакш?.. (ця)

### МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

Паводле падлікаў стаматолагаў ЗША, у васьмідзесяці працэнтаў пакутуючых на зубны боль амерыканцаў прычынай захворвання з'яўляецца прывычка да славутай жавальнай гумкі. Асабліва згубна гэта прывычка дзейнічае на нармальнае развіццё зубоў і ліній твару ў дзяцей чатырох-пяцігадовага ўзросту.

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XXII

**Творчае credo.** Некалькі сваіх вершаў прысвяціў Гарун праблеме творчай праграмы, творчага працэсу, творчага ўяўлення і творчай рэчаіснасці. Бывае, што паэт развівае сваю творчасць у згодзе з рэчаіснасцю. Тады можна гаварыць аб гармоніі паміж паэтам і навакольным светам. Зразумела, што ў такой паэзіі не многа канфліктаў, не многа ўнутранай напружанасці, не многа драматызму. З-пад пяра такога паэта выходзяць найчасцей панегірычныя, пахвальныя творы. Гарун не належаў да такіх паэтаў. Уся яго творчасць была формай нязгоды з навакольным светам, калізіі з акружаючай рэчаіснасцю, канфлікту з самім сабой. І таму ў спадчыне Гаруна амаль няма салодзенькіх, ружовых вершаў, але як жа затое многа твораў з хмурным, напружаным унутраным кліматам.

Да твораў, у якіх выразна праяўляюцца праблемы творчага credo, можам залічыць вершы: „Людзям", „Чаму з маленства, з ураджэнства", „Усе з адной мы выйшлі нівы", „Паэту", „Матчын дар".

Несумненна, найбольш праграмным творам у галіне творчага працэсу трэба лічыць верш „Людзям". Якраз у гэтым вершы паэт падкрэслівае, што яго творчасць з'яўляецца вынікам канфлікту з паднявольнай рэчаіснасцю. Для Гаруна творчасць — гэта свет, супрацьстаўны свету сапраўднаму, свету ссылкі. Вось словы аўтара:

*Часамі праца ўдзень кіпіць, —*
*Цярплю і я прыгон, —*
*Аж косць аб косць з пляча рыпіць...*
*Пачуеш сэрцам звон, —*
*Ухопіш зык, за ім другі,*
*За тымі больш ідуць,*
*Злiюцца ў сцяг даўгі-даўгі*
*І цэлы дзень гудуць.*
*Загасне дзень, іду дамоў,*
*Кладуся спаць, і ўноч*
*Цякуць радкі звінячых слоў*
*І сон адходзіць проч.*
*Тады пішу. Перад вачмі*
*Снуецца зданяў рой,*
*І хоць стаіць па-за плячмі,*
*Здаецца, блізкі, свой.*

Было б аднак памылкай думаць, што паэзія Гаруна гэта форма поўнага пабегу ад рэчаіснасці, што Гарун імкнуўся ўцячы ў свет суб'ектыўных рэальнасцей, якія не мелі нічога супольнага з аб'ектыўнай праўдай. Гарун уцякаў ад канкрэтнай, несправядлівай рэчаіснасці і марыў аб новай рэчаіснасці справядлівай. Аб сіле і характары грамадзянскага віталізму ў творчай праграме Гаруна сведчыць фінальная страфа ўжо цытаванага верша „Людзям". У ёй паэт падкрэслівае, што вартасць яго паэзіі пацвердзіцца, будзе акрэслена адносінамі да яе з боку беларускага грамадства. Для паэта было б шчасцем пачуць свае творы з вуснаў людзей.

*Сваіх тут жменьку я спісаў*
*Маркотных песняў-дум;*
*Маёй душы іх сам спяваў*
*Па краі родным сум.*
*Скажу яшчэ, чаго б хацеў:*
*З дзявочых вусн пачуць*
*Хаця б адзін мой бедны спеў,*
*Хаця б калі-небудзь!*

Тут сказана ўсё. Паэт не з'яўляецца прыхільнікам тэзіса „мастацтва для мастацтва". У яго паэтычнай праграме выразна сказана, што паэзія мае служыць людзям. Гэтая цесная сувязь творчасці з грамадскімі патрэбамі акрэсліла і загаловак твора „Людзям".

Таксама ў вершы „Чаму з маленства, з ураджэнства" моцна гучыць матыў сувязі творчасці паэта з родным краем. Гарун падкрэслівае, што Беларусь была і застаецца крыніцай яго паэтычнага натхнення. Паэт хоча аддаць сваёй зямлі тое, што ўзяў ад яе — песню. Песня азначае тут, зразумела, паэзію, усю творчасць паэта.

*Вазьмі ж хоць спевы, дум перапевы*
*Лясоў тваіх, —*
*З тваёе глебы, з тваёга неба*
*узяў я іх.*

Вось у гэтым прыгожым адзінстве паэзіі з родным краем праяўляецца істота творчага credo Гаруна.

## Аляксандр Ляшкевіч

Аляксандр Ляшкевіч, с. Міхала з Краснага Сяла вядомы ў ваколіцы, як добры гаспадар і грамадскі дзеяч. Не адну прыгожую старонку сваёй 53-гадовай біяграфіі запісаў гэты чалавек.

Зараз жа пасля вызвалення Бельшчыны Аляксандр Ляшкевіч уступіў у Войска Польскае. Дайшоў да самага Берліна. Аб яго службе Радзіме сведчаць баявыя медалі, якія ён атрымаў: Бронзавы Крыж „Віртуці Мілітары“, медалі за Варшаву, Берлін і інш.

Пасля вайны А. Ляшкевіч вярнуўся ў родную вёску. І тут жыве ён па сённяшні дзень. Працуе на гаспадарцы, якая налічвае каля семнаццаці гектараў зямлі. Глеба тут неблагая, а пры сучаснай агратэхніцы А. Ляшкевіч дабіваецца добрых ураджаяў: у сярэднім 26-27 цэнтнераў жыта з гектара і каля трыццаці цэнтнераў ячменю і аўса. Немалыя поспехі А. Ляшкевіча і ў жывёлагадоўлі. Трымае ён на доглядзе дванаццаць штук быдла, дзесяць кормнікаў. У мінулым годзе прадаў ён дзяржаве адзінаццаць кормнікаў першага класа і двух бычкоў. Сёлета намераны ён прадаць тры штукі быдла. Шмат кантрактуе сельскагаспадарчых культур, напрыклад, канюшыну. Мае ён гектаравую плантацыю трускалак.

Аляксандр Ляшкевіч з 1947 года з'яўляецца начальнікам мясцовай пажарнай каманды. Ужо чацвёртую кадэнцыю з'яўляецца ён радным Гміннай рады ў Боцьках.

У Ляшкевічаў — дзве дачкі. Адна з іх закончыла Бельскі эканамічны тэхнікум і працуе ў Беластоку, а другая з'яўляецца студэнткай трэцяга курса беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

За заслугі ў грамадскай працы Дзяржаўная рада ўзнагародзіла Аляксандра Ляшкевіча Сярэбраным і Залатым Крыжамі Заслугі. (ус)





## ФАЛЬКЛОР

ЛЮБОЎНАЯ




*Я у карты пагадаю —*
*сама сэбэ розвэсэлю,*
*а я бэз картоў добрэ знаю,*
*што мілы роскохаў мэнэ,*
*а я бэз картоў добрэ знаю,*
*што мілы роскохаў мэнэ.*
*Вон роскохаў мэнэ, нэшчасну,*
*і од дыўчат вон оддыліў,*
*зоставіў мэнэ, сыротыну,*
*а сам богачку полюбыў,*
*зоставіў мэнэ, сыротыну,*
*а сам богачку полюбыў.*
*Хай богачка тэбэ любыт,*
*нэхай пануе над тобой,*
*вона любыть так нэ сумее,*
*як я любыла, мілы мой,*
*вона любыть так нэ сумее,*
*як я любыла, мілы мой.*
*Богачка золотом обліета,*
*а біедна можэ — красатой,*
*а што станэця ў жыті нашым —*
*нэ згадаеш, мілы мой,*
*а што станэця ў жыті нашым —*
*нэ згадаеш, мілы мой.*
*Спомні, спомні той садочок,*
*дэ гуляла я з тобой,*
*я цыловала твое лічко*
*і называла: „Мілы мой“,*
*я цыловала твое лічко*
*і называла: „Мілы мой“.*

Ад Анны Парфенюк, 1923 года нараджэння, вёска Арэшкава, гміна Дубічы Царкоўныя, запісаў 4 сакавіка 1975 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

## Смачны хлеб у Нараўцы

Тры тоны ў суткі хлебабулачных вырабаў выпускае новая нараўчанская пякарня. Сваю прадукцыю распачала яна на чатыры месяцы раней тэрміну. У чэрвені 1974 г., дзякуючы гайнаўскаму рабочаму кааператыву „Чын“ і жанчынам з Нараўкі і яе ваколіц, новая паравая печ спякла ўжо першы бохан хлеба. Нездарма ўлажылі на пабудову 1 мільён 400 тыс. злотых. Якасць і колькасць вырабаў, у параўнанні са старой пякарняй значна павялічыліся. Умовы працы таксама намнога лепшыя. У сувязі з тым, што працуюць тут жанчыны і мужчыны, ёсць дзве, забяспечаныя шафкамі на вопратку, раздзявальні. Усюды парадак і чыстата. Усё ляжыць на сваім месцы. Ёсць склады солі, мукі і розных іншых прыпраў.

— З мукой клопатаў няма. Дастаўляе яе Беласток, Ломжа і Сувалкі, заўсёды ёсць запас, — гаворыць кіраўнік Аляксандр Вішнеўскі, які 3 гады працаваў яшчэ ў старой пякарні.

Хаця пякарня яшчэ новая, то вырабы яе ўжо даволі смачныя. Жыхары з ахвотай кладуць іх на стол. Хлеба ў пякарні не застаецца ніколі. Увесь рассылаюць. Апрача таго, што абслугоўваюць 24 прадажныя пункты ва ўласнай гміне, высылаюць яшчэ ў Гайнаўку, Белавежу, Нараў, а часам і ў Беласток.



*Загадчык нараўкаўскай пякарні Аляксандр Вішнеўскі.*

Працуе тут 10 пекараў. Усе яны мясцовыя, гэта значыць з Нараўчанскай гміны. Сваёй прафесіі навучыліся тут, у Нараўцы. Потым толькі праходзілі кароткія курсы ў Глухалазах або ў Беластоку. Трое з працаўнікоў маюць званне чаляднiка.

У новай пякарні не толькі выпякаюць хлеб, якога ёсць тут некалькі гатункаў, але і салодкія булкі, і булачкі з мармаладам, і пончыкі. Дрэнна, аднак, справа выглядае з кандытарскімі вырабамі. Прадукуюць іх надта мала, хаця попыт вялікі. Прычына ў тым, што няма ў гэтай галіне спецыяліста. Застаецца толькі чакаць ды верыць, што хутка ён знойдзецца.

**М. Шаховіч**

Фота Я. Цялушэцкага



*Смачныя булачкі пячэ Надзея Гарустовіч.*

## БОЛЬШ ТАКІХ ПРАДАЎШЧЫКОЎ

Сустракаемся з імі кожны дзень, але не знаем іх прозвішчаў, не цікавяць нас звычайна лёсы іх жыцця, а часам не памятаем нават іх твару. Найчасцей бачым толькі іх рукі, якія выконваюць нашыя жаданні:

— Прашу „Пшыяцюлку“!

— Прашу „Ніву“!

— Спорты!

— Ці ёсць шампон для валасоў?

Лёгка дадумацца, што гутарка тут ідзе аб прадаўцах з кіёскаў „Руху“.

Сёння прадстаўляем нашым чытачам прадаўшчыцу Ніну Кананчук з кіёска „Рух“ нумар 367 у Міхалове. Кіёск гэты знаходзіцца ля рухлівай вуліцы Беластоцкай. Многія жыхары міхалоўскага пасёлка, а ў тым ліку і ўсе рабочыя тэкстыльнага прадпрыемства імя Сяржана ахвотна купляюць тут свежую прэсу, кніжкі, школьныя дапаможнікі, папяросы, цацкі, паштоўкі і розныя дробныя прадметы. Н. Кананчук добра ведае густы і патрэбы сваіх пастаянных кліентаў. Мае яна звыш ста пастаянных чытачоў прэсы, для якіх адкладае розныя газеты і часопісы ў спецыяльна загадзя падрыхтаваныя папкі. Намагаецца яна мець больш такіх пастаянных пакупнікоў прэсы.

Ветлівая прадаўшчыца прадае каля 40 экземпляраў тыднёвіка „Ніва“, 60-70 экземпляраў „Газеты Вспулчэснай“, 85 экземпляраў „Пшыяцюлкі“, па 10-12 экземпляраў сельскагаспадарчай прэсы.

Газетна-часопісны кіёск, у якім працуе Н. Кананчук, мае прывабны выгляд, у ім акуратна аформлены вітрыны, дбайна раскладзены газеты. Хаця нялёгка працаваць у такой шклянай ды невялічкай клетцы, Ніна Кананчук не зважае на гэта і заўсёды стараецца быць да кожнага ветлівай і з усмешкай на твары. Яна любіць сваю працу. У чэрвені гэтага года Н. Кананчук атрымала грашовую ўзнагароду ад дырэкцыі прадпрыемства „Кніга-Прэса-Рух“.

Тэкст і фота

**Я. Цялушэцкага**



# ТРЫБУНА чытачоў

## Ашуканскі прыпынак ПКС

Па патрабаванню жыхароў урухомлена лінія ПКС Гайнаўка — Малыя Тыневічы.

На апошнім, тыневіцкім прыпынку ўстаноўлена зашклёная чакальня і пачэплен актуальны расклад курсаў. Аднак жа ніводзін аўтобус не даязджае да гэтага прыпынку, але адразу заварочваецца на дарозе да Рацькоў, каля двухсот метраў далей, каб зручней паехаць зноў у Гайнаўку. Мясцовыя людзі ведаюць пра гэтыя фанабэрыі пэкаэсаўскіх шафёраў і сустракаюць аўтобус ужо на рацькоўскай дарозе.

Хто не ведае аб гэтым і чакае на прыпынку, той застаецца ў дурнях... Нікуды ён адсюль не паедзе! А калі заўважыць гэту звычку шафёраў і спрабуе пасварыцца з імі, дык яны адкажуць, што ім выгадней не даязджаць да прыпынку. І растлумачаць, чаму выгадней.

Улады ПКС павінны або праявіць сваю ўладу ды прымусіць шафёраў да гэтага апошняга на лініі прыпынку, або перанесці прыпынак бліжэй той жа рацькоўскай дарогі...

**Раса**

## Зубаўскія гаспадыні

У Зубаве ўжо доўга існуе гурток вясковых гаспадынь. Налічвае ён 48 членаў. Кіруе гуртком Зінаіда Вязоўская.

Зубаўскія гаспадыні вучацца кулінарнаму ўмельству. У Зубава прыязджаюць спецыялісты кулінарнай справы і ладзяць курсы, напрыклад, гатавання ды пячэння. Гурток мае свае шклянкі, талеркі, лыжкі, нажы і відэльцы.

Дзейнасць гуртка надта патрэбная ў жыцці вёскі.

**Джэны А.**

## Добры фатограф

У Гайнаўцы ля вуліцы Першамая знаходзіцца фатаграфічнае атэлье „Стыль" Ежы Схабоўскага. Чалавек гэты карыстаецца добрай славай і аўтарытэтам спецыяліста па сваёй прафесіі. Ён мае вучняў.

У атэлье „Стыль" заказы выконваюцца тэрмінова і салідна. **Я. М.**




**НАДЫХОДЗІЦЬ ВОСЕНЬ**

Лета, чаму ты ўцякаеш?
Гай, лугі і лясы пакідаеш!
Як прыемна было нам з табою
Жыць і цешыцца гэтай парою.

Ты ўцякаеш ад злой пагоды.
Відаць, што надыходзяць нягоды.
І чуваць, і відаць — восень ступае
І лета яна перамагае.

Восень цяжка крочыць па зямлі,
Яе поўна ўсюды, што ні глянь куды.
Яна літасці не мае,
Бабім летам наваколле засцілае.

Дрэвы з сябе цяжар скідаюць
Пад сабою зямлю лісцямі
ўсцілаюць.
Усё гэта робіць восень тая,
Пара года ліхая.

**Вольга Ігнацюк,**
беларускі ліцэй у Гайнаўцы

**ПЕРШАЯ ЛЮБОЎ**

*Я памятаю той летні вечар,*
*На дварэ было ціха.*
*Зоркі ясна на небе свяцілі*
*І шумела ў рэчцы вада.*

*Ён стаяў і глядзеў ў мае вочы,*
*Паўтараў часта слова: „Жаль".*
*Гаварыў мне вялікія словы*
*І казаў, што кахае мяне.*

*Дык пашто суцяшаў маё сэрца,*
*Калі ў ягоных вачах было — не!*
*Аднак жа я ведаю, што не забуду*
*Сваёй першай дзіцячай любові.*

**Ірэна Кузьма, Міхалова.**

## Ніхто не паклапоціцца

Катлы — вёска вялікая. Знаходзіцца яна ля шашы з Бельска ў Нарву. Каля вёскі праязджае аўтобус. Мае ён там свой прыпынак, на якім заўсёды многа людзей. Але ніхто не паклапоціцца, каб збудаваць хаця б невялікую чакальню...

Натоўпы людзей часта чакаюць доўга — другога аўтобуса, калі не ўзяў першы. У дождж няма куды схавацца. У спякотнасць няма куды падзецца. Зімой зноў бяда — вецер з марозам! Вельмі цяжка глядзець на моладзь, што раніцай даязджае ў бельскія школы. Прытым аўтобусы не заўсёды прыязджаюць.

Каб тут стаяў хоць які-кольвек будыначак, дык было б прытульней і, вядома, выгадней. А то нават лавачкі няма... Ніхто не клапоціцца аб гэтым прыпынку.

**Чытач „Нівы"**

## Піражкоўская задрыпанка

Амаль у кожнай вёсцы ёсць клуб або хоць святліца. Але святліца, аб якой хачу расказаць, мае настолькі задрыпаны выгляд, што ажно не верыцца, каб нешта культурнае ў ёй адбывалася... Гэта святліца ў Піражках.

Гледзячы на яе знадворку, ствараецца ўражанне, што ёсць у ёй штосьці з жабрака... Абдзёртая, аблупленая. Увойдзеш у сярэдзіну, дык уражанне тое яшчэ больш паглыбляецца: паламаныя крэслы, смецце, брудныя закуткі, коркі ад бутэлек, растоптаныя недакуркі ды ўсякая іншая брыдота!

Хто вінаваты?

Можна шукаць вінаватых сярод прадстаўнікоў гмінных улад або загадчыка святліцы... Мне здаецца, што найбольш тут вінавата сама моладзь, якая не шануе свайго дома. Бо святліца — гэта яе супольны дом, у якім сустракаецца яна з нагоды розных вечарын, імпрэзаў і г.д.

**Я. Бандарук**

## Традыцыйны балаган у бельскай ПКП

Дзевятнаццатага жніўня ездзіў я ў Беласток. Дзеля гэтага а палове восьмай раніцы пайшоў я на станцыю ў Бельску. Вядома, купіць білет.

У будынку станцыі ўбачыў я натоўп людзей. Усе яны стаялі ў даўжэзнай чарзе за білетамі. Стаў і я. Трэба сказаць, што на гэтай станцыі штодзень збіраецца мноства народу. І павёўся тут такі дзіўны звычай, што другую білетную касу — а ёсць такая! адчыняюць ужо тады, калі да ад'езду цягніка застаюцца лічаныя хвіліны.

Гэтак было і ў той дзень. Людзі пачыналі хвалявацца, сварыцца каля білетнай касы. Але другая білетная каса як была зачыненай, так і заставалася яна наглуха заслоненай. Калі папрыязджалі ўсе пасажырскія цягнікі і народу стала яшчэ больш, адчынілі ўрэшце тую другую білетную касу. Тлум кінуўся-рынуўся да яе! Купіла ў ёй білеты мо пяць асоб, як пачулася ў рэпрадуктарах, што ўжо адыходзіць цягнік у Беласток, у Седльцы таксама... Тады больш сотні людзей, без білетаў, пабегла да цягнікоў. З імі, вядома, і я. Колькі штрафаў заплацілі людзі за безбілетнасць — невядома. Я не заплаціў, бо прыехаў у Беласток і ніхто ў дарозе не пытаў у мяне пра білет...

Такі балаган на бельскай станцыі стаў ужо традыцыяй. Ці няма на бельскай станцыі ПКП нікога, хто падумаў бы аб стратах, якія нясе чыгунка на безбілетных праездах? А хто палічыць страты людскіх нерваў?...

**М. Матвеюк**

## Яго любяць ды шануюць

Многа ўжо гадоў Мікалай Лопух, які родам са Шчытоў, працуе пісьманосцам у Орлі. Ён вельмі добрасумленны чалавек. Добра выконвае свае абавязкі. Атрымлівае за гэта ганаровыя дыпломы і спецыяльныя ўзнагароды.

Адной з вёсак, якую ён абслугоўвае, з'яўляюцца Крывяцічы. Усе тут любяць Мікалая Лопуха. З радасцю чакаюць яго, калі ён прыносіць пісьмы, газеты і інш. Дзякуючы яму ў Крывяцічах ёсць шмат падпісчыкаў „Нівы".

**Іван Кірызюк**

## Бабікі маюць лекара

Бабікі з'яўляюцца сядзібай гмінных улад, але да гэтага часу не было тут пункта аховы здароўя. Знаходзіўся ён у маёнткавых будынках у Мішкеніках, куды цяжка было дайсці або даехаць, асабліва ў непагадзь.

Лекар Ежы Ціхонскі, перайшоўшы з Крынак на работу ў гэты пункт, пастараўся перавесці яго ў Бабікі. І хаця знаходзіцца ён у прыватным будынку, людзям стала лягчэй даязджаць сюды, бо ў Бабіках крыжуюцца многія дарогі.

У апошні час, дзякуючы захадам гмінных улад і самога лекара, пачалі будаваць новы будынак спецыяльна для патрэб пункта аховы здароўя. Зроблена будаўнічая дакументацыя, атрыман крэдыт. Людзі дапамагаюць у неспецыялістычных работах. Напрыклад, нядаўна зрабілі фундамент. Трэба спадзявацца, што недалёкі той час, калі ў Бабіках будзе новы, прыгожы цэнтр здароўя — з усімі патрэбнымі памяшканнямі.

**Т. К.**

## Аля Варанецкая



Аля Варанецкая пражывае ў вёсцы Чыжы. Вучыцца яна ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы.

— Вёска Чыжы вялікая, прыгожая. Людзі клапоцяцца тут аб ладзе ды чысціні. Ёсць у нас прыгожы клуб, у якім праводзім розныя мерапрыемствы, — гаворыць Аля.

З'яўляецца яна актывісткай Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

**В. Б.**




**Кастусь Пятэльскі, Крушыняны.** Вашу карэспандэнцыю „Весткі з Крушынян" мы, на жаль, не маглі змясціць. Пасля змяшчэння яе ў „Ніве" яна аказалася б спозненай — па той прычыне, што з'явілася б у друку праз два тыдні. „Ніва", як кожны тыднёвік, рыхтуецца на два тыдні загадзя.

Просім карэспандэнцый, якія не страцяць сваёй актуальнасці пасля такога часу. Вы вельмі рэдка пішаце да нас. Чаму?

**Есіп Альшэўскі, Бельск.** Аб тым, што апісваеце Вы ў сваёй карэспандэнцыі „У гадавіну перамогі", мы ўжо пісалі.

**Мікалай з Уроцлава.** Адказ на ваша пытанне надрукуем у рубрыцы „Сардэчныя тайны".

Пры нагодзе прапануем вам напісаць карэспандэнцыю пра беларусоў ва Уроцлаве. Ці зможаце?

**Анна Мучко, Вялікая Турна.** Апісанай вамі справай зацікавімся. Просім пісаць да нас больш.

**Шал.** Просім пісаць больш канкрэтна: падаваць назвы мясцовасцей, прозвішчы адказных асоб і г.д. Ваша карэспандэнцыя занадта ананімная.

**Зінаіда і Павел Багінскія з Галадоў, Павел Казлоўскі з Новага Ляўкова і Сцяпан Такаюк з Мікуліч.** Неўзабаве атрымаеце адказы ад нашага юрыста. Вам давядзецца крыху пачакаць з увагі на тое, што наш юрыст знаходзіўся ў водпуску і яго не было ў Беластоку. На днях ён вернецца.

**Юрка Ляткоўскі, Буды.** Мы зацікавіліся вашай справай. Гутарылі з дырэктарам школы, які сказаў, што будзеце прыняты на завочнае аддзяленне (на дзённае — ваша кандыдатура не падыходзіць). Рашаючае значэнне мелі тут ацэнкі, атрыманыя вамі ў перадапошнім класе, якія бяруцца пад увагу падчас набору вучняў.

## Чаму не даўжэе тапаркоўская вуліца?

Як усюды, так і ў Тапарках, вясковая вуліца зрабілася кароткай. А таму яна пакарацела, што прыбывае жылых дамоў. Гаспадары будуюцца.

У дажджы ды непагадзь небрукаваны кавалак тапаркоўскай вуліцы патанае ў калюгах і крэкадзі. А на мосціку, што за вёскай, ёсць калдобіна, якой не відаць у дажджлівыя дні. Дзіву даешся, што яшчэ ніхто з матацыклістаў не скруціў шыі на гэтым мосціку-хвосціку...

Як паправіць вуліцу і мосцік?

Трэба пракапаць добрыя прыдарожныя равы, каб вада мела кудою сцякаць, навезці жвіру на дарогу, пабрукаваць. **М. Панфілюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

У сувязі з карэспандэнцыяй Янкі Бандарука „Сакольскія шафёры", змешчанай у „Ніве" ад 20 ліпеня г.г., загадчык філіяла ПКС у Саколцы грам. Генрык Кандрат піша да нас:

... za niepunktualny wyjazd z Krynek winę ponosi kierowca. W związku z lekceważeniem punktualności kursowania autobusów w stosunku do kierowcy zastosowano sankcję premiową. Ponadto notatka prasowa Waszego korespondenta będzie przedmiotem najbliższej odprawy ze służbą ruchu.

Kierownik
Placówki Terenowej PKS
w Sokółce
Henryk Kondrat

У „Ніве" ад 3 жніўня змешчаны карэспандэнцыі Аляксандра Раманюка „Мост на рацэ" і ад 10 жніўня — „Гульня ў жмуркі" М-ка. Вось адказы на іх.

Powiatowy Zarząd Dróg Lokalnych w Bielsku Podlaskim informuje:

Most drewniany na rzece Białej położony w ciągu drogi Dubiażyn—Podbiele ze względu na zły stan przewidziany jest do przebudowy na żelbetowy w drugim półroczu 1975 r. W obecnej chwili ze względu na bezpieczeństwo jest on zamknięty dla ruchu. Objazd znajduje się około 0,5 km przez most stały na rzece Białej w ciągu drogi Podbiele—Mokre.

І на „Гульню ў жмуркі"'

Słup ze znakami drogowskazowymi znajdujący się na skrzyżowaniu dróg Bielsk Podlaski—Mokre i Bielsk Podlaski—Dubiażyn został przez nieznanych sprawców obrócony tak, iż ramiona tablic drogowskazowych wskazywały przeciwne kierunki. W dniu 13.08.1975 r. tablice drogowskazowe zostały ustawione przez służbę drogową we właściwy sposób.

Kierownik Powiatowego
Zarządu Dróg Lokalnych
mgr inż. Jan Wawrzyniak

## ДЗЕ? ШТО? КАЛІ?

Пятнаццатага жніўня раніцай у Дзевічым Лузе Лешак Ш. з Новай Волі, што за Саколкай, вываліўся ў роў легкавой машынаю „Мускал". Трое пасажыраў Лешка Ш. пакалечыліся.

У той жа дзень пасля абеду Казімір С. з Бельска гнаўся матацыклам у Вышкі і перакуліўся на гэтай сваёй „эмзэтцы". І, вядома, здорава пакалечыўся.

Шаснаццатага жніўня пад вечар у Звадзеччыне Васіль К. са Скупава паўтарыў „подзвіг" Казіміра С. з Бельска. Ды зрабіў ён гэта настолькі няўдала, што трэба было яму легчы ў гайнаўскую бальніцу. На вылячэнне.

Больш адчайным у той дзень аказаўся Станіслаў С. з Беластока, які сваім матацыклам ударыў з вялікім трэскам у фурманку Мечыслава А. з Залешан. Станіслава завезлі ў бальніцу.

Матацыкліст Зэнан К., мчаўшыся на матацыкле па вуліцы Дзяржынскага ў Бельску, чуцанькі не забіў свайго пасажыра Тадэвуша Т., які разам з ім зваліўся вобземлю. Тадэвуш знаходзіцца ў мясцовай бальніцы.

Сямнаццатага жніўня ля вёскі Чартаева забіўся Тадэвуш П. з Бельска, які сваім „Камарыкам" ударыў у легкавую машыну „Варшава".

Раніцай таго ж дня Рыгор Ш. са Старакорніна сваёй „вуэфэмкай" не здолеў „узяць" паварота і папёр у прыдарожны роў. Яму, на шчасце, нічога дрэннага не сталася, але ягоную пасажырку Марыю П. з Тафілаўкі давялося хутка адвезці ў бальніцу.

Васемнаццатага жніўня ўдзень на прыпынку ПКС у Шушалеве Ёзік Б. сваёй „Сірэнкай" пакалечыў Тэрэсу Б., якая чакала аўтобуса. Тэрэса Б. ляжыць у дуброўскай бальніцы.

„Niwa" — Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

# СЕРВІЗ

На прыпынку ў вагон увайшоў мужчына, і нашага кандуктара быццам падмянілі.

— Ці не жадаеце згуляць у шахматы? — раптам запрапанаваў ён новенькаму пасажыру.

„Акулярнік“ запярэчліва кіўнуў галавою.

— Дык, можа, у шашкі ці даміно?

— Не трэба.

Мы пераглянуліся. Едзем дзесятую гадзіну, і нават на думку не прыйшло, што ў вагоне ёсць якія-небудзь гульні.

— Пэўна, пасажыр-іншаземец, — шапнуў мой сусед.

— А мо карэспандэнт які, — гаворыць чырвонашчокая маладуха.

— Не. Гэта, мабыць, нейкая іхняя „шышка“.

Нашаму здзіўленню не было мяжы. Кандуктар тройчы абскакваў навокал загадкавага мужчыны, падмятаючы падлогу. Потым аднекуль прынёс кучу свежых газет.

— Ух ты! — загулі ў вагоне.

Ды вусач-кандуктар не збіраўся на гэтым ставіць кропку. За гадзіну ён учыніў тое, пра што мы толькі марылі, і прынёс гарачага чаю!

— Во, як абслугоўвае, — зноў не вытрымаў мой сусед. — А то і цукру, кажуць, няма і заваркі.

— Часцей бы ездзіла чыгункай іхняе кіраўніцтва.

Загадкавы пасажыр сыходзіў на маім прыпынку. Кандуктар запабягліва дапамог яму вынесці чамадан і застыў у чаканні.

„Акулярнік“ непрыкметна тыцнуў яму чырвонец. Вусач хуценька, бы ілюзіяніст, схаваў грошы і, заахвочваючы, прашаптаў:

— Калі і ў наступны раз білета ў касе не купіце, тупайце да мяне. Падкіну з камфортам. І сервіз забяспечу.

**Віктар Яндзябера**

## АДЫСЕЯ СУЧАСНАГА АДЫСЕЯ



*— Дзе ты прападаў, Адысей?*
*— Для завода загатоўкі выбіваў.*

## ШКАДА

Маладая асоба хваліцца сваёй сяброўцы:

— Я сёння сніла, што ў наш магазін прывезлі туфлі апошняй моды. І я сабе купіла.

— Як шкада, — уздыхнула сяброўка. — І чаму ты мяне з сабой не паклікала?

## НА ВАКЗАЛЕ

У чакальні вакзала дзяжурны звяртае ўвагу курцу:

— Тут курыць нельга...

— А дзе ж мне выкурыць цыгарку?

— У курыльным пакоі або ў пакоі маці і дзіцяці. Там так накурана, што наўрад ці хто будзе пратэставаць.

# НІЎКА



## У ПОЕЗДЗЕ

Сядзіць у вагоне грамадзянін. Праз хвіліну ўваходзіць жанчына.

— Грамадзянін, пастаўце свае рэчы пад лаўку, я тут сяду.

— Ну-ну...

— Не нукайце, а забярыце свае рэчы пад лаўку, чуеце?

— Ну-ну...

— Я паклічу правадніка!

Уваходзіць праваднік.

— Чаму вы не хочаце забраць свае рэчы?

— Ну-ну...

— Ды вы што, смяецеся з мяне? Вось я зараз паклічу міліцыянера.

Уваходзіць міліцыянер.

— Чаму вы не хочаце забраць свае рэчы?

— Ну-ну...

— Я вас аштрафую!

— Ну-ну...

На станцыі ўваходзіць дзяжурны па станцыі.

— Чаму вы не хочаце забраць свае рэчы?

— Ну-ну...

— Як гэта „ну-ну“?

— Бо гэта не мае. Навошта мне іх забіраць?

## ЗДЗІЎЛЕННЕ

Дзеці падбеглі да бацькі, каб нешта цікавае яму паведаміць.

— Ціха, вы сарачаняты! Няхай хто з вас адзін гаворыць, а то ж я не магу адразу дваіх слухаць.

— А хіба ты, татка, на адно вуха дрэнна чуеш?











**...Заглянула мужу ў душу — і ўбачыла там схаваныя прэміяльныя.**

**...Ён спрабаваў жыць па прынцыпу: у свае сані не садзіся, калі ёсць чужыя. Але заўсёды садзіўся ў лужыну.**

*ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ*

*Па просьбе Галіны Лукашук са Шчэціна, Тосі Палавянюк і Гені Себясевіч з Парцава змяшчаем песню*

## KOMU WESELNE DZIECI

słowa: Agnieszka Osiecka
muzyka: Katarzyna Gärtner
śpiewa: Urszula Sipińska

Lody wanilią pachną
A w pustym porcie słychać rzeki szum
Kina są jak pałace
Gołębie płyną aż do nieba bram

Bolą mnie te niedziele
Gdy idę sama przez odświętny tłum
Ide i szukam kogoś
Kto w barwnym tłumie jest tak samo sam

Szukam kogoś kogoś na stałe
Na wspólny śmiech i żal
Szukam kogoś na życie całe
Na długą drogę w dal

Niechby miał choć parę groszy
I w oczach ciepła dość
I niechby nie był wśród ludzi najgorszy
I niechby mnie kochał kochał jak ja jego, ech!

Czy znajdę takiego
Kogoś własnego
Czy znajdę takiego kogoś na stałe, ech

Komu urodzić mam weselne dzieci gdy nadejdzie czas

Kto jest tak samo sam na świecie
Kto jest tak samo sam
Komu mam dać nadzieję, a zabrać noce i świąteczne dni

Przy kim się postarzeję
I przed kim nigdy mi nie będzie wstyd




*— Вельмі шкада, ды з гэтакай татуіроўкай мы вымушаны вярнуць вас назад. Увоз у нашу краіну парнаграфіі забаронены.*

## АНІ СЛОВА

— Хуткая дапамога! Прыязджайце хутчэй, маёй жонцы кепска.

— Колькі ёй год?

— Ані слова пра гэта! Яна адразу памрэ, калі пачуе, што я сказаў праўду.

## ГУМАР З

### МУЖЫК І ПАН

Калісьці аднаму мужыку трэба было кудысьці паехаць чыгункаю. Паехаў ён, але на нейкім вакзале, дзе ён перасядаў на другі цягнік, захацелася яму есці. Шукаў, шукаў месца каля стала — ледзь знайшоў, бо народу было шмат.

Толькі пачаў там есці, як ні адсюль, ні адтуль з'явіўся нейкі вяртлявы панок са шклянкаю чаю ў руках. Стаў каля мужыка ды й глядзіць на яго, нібы кажа: „Ану ўступі, мужык, месца пану“.

Але мужык быў не з баязлівых — есць, і ні гу-гу. Тады панок і кажа голасна, так, каб мужык пачуў, да іншых панкоў, што сядзелі кругом:

— А скажыце ж, вяльможныя панове, якая розніца між мужыком і свіннёю? — І, сёрбаючы чай стаячы, глядзіць на мужыка.

А мужык, не доўга думаючы, ды:

— Розніца ёсць, пане!

— Якая?

— Ды такая, што мужык есць седзячы, а свіння стоячы.

## Тры пункты погляду

### НА ЛЕБЕДЗЯ

— Які палёт! — Пілот прамовіў.
Мастак дадаў: — І сілуэт!
— І вернасць, вернасць у любові! —
Усклікнуў малады Паэт.

### НА ЗУБРА

— Чым не гара? — сказаў Географ.
— Жылы „БелАЗ“! — сказаў Шафёр.
О, кадр! — усклікнуў тут мацёры
Пранырa — фотарэпарцёр.

### НА ЛЬВА

— Звярыны бог! — сказаў Епіскап.
Банкір: — Ну, чым не мільянер?!
— Так-так-с! — яму Гандляр падсвіснуў. —
Сто тысяч лір — адзін каўнер.

### НА ВУЖА

— Стары! — сказаў Заолаг-практык.
— А гі-і-ібкі! — Падхалім сказаў.
— Задоўгі! — заключыў Рэдактар. —
Урэзаць! Ці вярнуць назад!

**Міхась Пальнок**

## БАЦЦА МУЖА

— Фатограф! Я хачу сфатаграфіравацца на фоне гэтых калонаў, ды зрабіце гэта так, каб мой аўтамабіль не трапіў у кадр.

— А чаму, мадам?

— Вы не ведаеце майго мужа — ён абавязкова вырашыць, што гэта я разбурыла Калізей.

## ДОБРЫ ЎНУК



*— Ану, кыш, баба. Мой дзядуся сядзе!*

# Курёзы

## ЯК ЗНАЙШЛІСЯ НОГІ

Дробны рамеснік з Севільі набыў на блашыным рынку карціну — горнае возера з аленямі на беразе. Мастацкія якасці карціны былі падазронымі, ды новаму ўладальніку яна падабалася. Праўда, фарбы былі нейкія аблезлыя, і гаспадар аддаў карціну рэстаўратару — паднавіць. Якое ж было здзіўленне рэстаўратара, калі на вачах возера знікла, а замест яго з'явіліся мужчынскія ногі. Не, гэта здавалася неверагодным, гэта ж... Ды не будзем спяшацца.

Рэстаўратар запрапанаваў прадаць яму карціну; гаспадар заўпарціўся, хоць і не разумеў яшчэ, у чым справа. Урэшце яго перакanала сума ў тры мільёны песет. Рэстаўратар панёс карціну дамоў. Выявілася, ён меў рацыю: гэта была ніжняя частка карціны вялікага Эль Грэко, адлюстроўваючая святога Севасцяна. Верхняя частка, што ў мадрыдскім музеі Прадо, заўсёды бянтэжыла знаўцаў мастацтва сваёй незакончанай кампазіцыяй. Урэшце мастацтвазнаўцы прыйшлі да вываду, што святы раней меў ногі, але яны былі адрэзаны адным з ранейшых уладальнікаў з-за адсутнасці рамы належнай велічыні...

## ЗАБАРАНІЛІ

Лонданскае тэлебачанне зняло дакументальны фільм аб сувязях злачыннага свету з англійскай паліцыяй. У ім фігуруюць вышэйшыя афіцэры Скотланд-Ярда, якія маюць, як пішуць, „сумесны бізнес з арганізаванай прастытуцыяй і вытворчасцю парнаграфічнай літаратуры“. Верхаводы злачыннага свету і паліцэйскія разам праводзілі водпускі і адзначалі святы.




**Збітая тэма тым і добрая, што за яе рэдка б'юць.**